№ 8 (153)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Ліпень 2013 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

С 27 июля мобильный оператор velcom повысит тарифы на услуги связи.

Рост цен коснется звонков и абонентской платы на голосовых тарифных планах для физических лиц, одноразовых взносов и тарифов на специальные и дополнительные услуги.

Повышение абонентской платы для большинства тарифных планов составит от 1,5% до 7%. Звонки внутри страны подорожают на 4-7%. В компании подсчитали, что средний счет для абонента потяжелеет на 2,7%.

### У Прыдняпроўі

Более полутысячи нарушений природоохранного законодательства выявили сотрудники Могилёвской областной инспекции охраны животного и растительного мира при Президенте Республики Беларусь на территории региона. Чаще всего в сводках инспекторов фигурировали случаи несоблюдения Правил ведения рыболовного хозяйства и рыболовства (221 факт) и нарушения в области лесопользования (186 фактов). В органы внутренних дел направлено 36 материалов для возбуждения уголовных дел.

### У раёне

У чытальнай зале цэнтральнай раённай бібліятэкі адбылася прэзентацыя кніг бялыніцкіх аўтараў «І будзе слова землякоў гучаць над роднаю старонкай», павядамляе сайт belynichi.gov.by. Зборнікі «Навелы ля каміна», «Ілюзія шчасця» Васіля Дзеравяшкі, «Ля весніц родных» Алы Войлакавай, «Нязгаснае сонца» Уладзіміра Серыкава, «Малой радзімы цёплы снег» Міхася Радоўскага пабачылі свет у бягучым годзе.

Зборнікі мясцовых паэтаў і празаікаў выйшлі ў друк у дзяржаўнай установе культуры «Цэнтралізаваная бібліятэчная сетка» у рамках праекту «Бялынiччына літаратурная».

# АДСПРАВАЗДАЧЫЛІСЯ, ШТО СКАРАЦІЛІ

***Магілёўскія і бялыніцкія чыноўнікі распавялі народу пра тое, наколькі скарацілася іх колькасць.***




Падчас аптымізацыі сістэмы дзяржаўных органаў у Магілёўскай вобласці скарачэнні закранулі ў аблвыканкаме 30% працаўнікоў, а ў раённых, гарадскіх і мясцовых адміністрацыях – у сярэднім 17%, паведаміў інтэрнэт-сайт Магілёўскага аблвыканкама.

Далей той жа сайт паведаміў, што ўсяго па Магілёўскай вобласці ў межах аптымізацыі колькасці работнікаў дзяржаўных органаў і іншых дзяржаўных арганізацый скарочана 634 штатныя адзінкі.

Нашы доблесныя бялыніцкія "слугі народа" у раённай газеце "Зара над Друццю" паведамілі, што ў Бялыніцкім раёне ў адпаведнасці з указам кіраўніка краіны аптымізавана 91 штатная адзінка, у тым ліку у райвыканкаме – 15.

Адчуваеце, якія "крутыя" нашы бялыніцкія чыноўнікі – па ўсёй Магілёўскай вобласці скарацілі 634 штатныя адзінкі, а ў Бялыніцкім раёне аж 91 штатную адзінку шандарахнулі. Ва ўсялякім выпадку, так адсправаздачылася начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы Бялыніцкага райвыканкама Ала Гапеева.

Мне аж плакаць захацелась над горкім лёсам бедных скарочаных бялыніцкіх чыноўнікаў, якія, пазбавіўшысь сваёй нялёгкай працы па забеспячэнню шчаслівай будучыні квітнеючай Беларусі, вымушаны будуць стройнымі шэрагамі рухацца ў калгасы і саўгасы, каб уласным прыкладам паказваць неразумным сялянам, як патрэбна працаваць. Ну, ці, у крайнім выпадку, павялічаць колькасць слаўных працаўнікоў Бялыніцкага ПМК-241, каб у тэрмін пабудаваць новыя фермы і выканаць распараджэнне свайго любімага кіраўніка Аляксандра Рыгоравіча, альбо займуць маючыюся вакансіі ў іншых

*(Заканчэнне на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# АДСПРАВАЗДАЧЫЛІСЯ, ШТО СКАРАЦІЛІ

*(Заканч. Пач. на стар. 1)*

вытворчых прадпрыемствах Бялыніцкага раёна.

Але плакаць мне не давялося, бо, як высветлілась, практычна ўсе скарочаныя "слугі народа" нядрэнна ўладкаваліся, ды і скарацілі іх зусім няшмат, бо прыбіралі ў асноўным пустуючыя месцы ў штатных раскладах.

Як сказаў адзін мой знаёмы бялыніцкі чыноўнік : "Проста пераклалі грошы з кішэні ў кішэню, і людзей перасунулі з месца на месца. Трэба ж адсправаздачыцца, што ўказанне Аляксандра Рыгоравіча выканана".

Але чаму тут здзіўляцца. Нашы не менш доблестныя бялыніцкія статыстыкі таксама вось справаздачацца пра тое, што ў Бялыніцкім раёне ў траўні месяцы сярэдні заробак склаў 4 237, 5 тысяч рублёў. У параўнанні з аналагічнымі перыядамі мінулага 2012 года тэмп росту намінальнай зарабатнай платы склаў аж 141,7%.

Зноў мне захацелась плакаць, на гэты раз ад шчасця, што так добра зарабляюць людзі ў нашым слаўным Прыдруцкім краі. Нават сам 15 ліпеня пачаў на сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны глядзець маючыяся ў Бялыніцкім раёне вакансіі, каб падацца працаваць у якуюнебудзь паспяховую бялыніцкую арганізацыю і зарабляць там добрыя грошы. А то працуеш тут журналістам на "праклятыя буржуінскія" сайты і выданні амаль задарма, матаешся па ўсёй Магілёўскай вобласці, дык лепш жа шалёныя грошы ў родным раёне зарабляць на нейкай карыснай для "слуг народа" працы.

Праўда, высветлілася, што гэтыя свалачугі з Міністэрства працы і сацыяльнай абароны справаздачы нашых чэсных бялыніцкіх статыстыкаў чамусьці не чытаюць, хоць, здаецца, разам працуюць на "квітнеючую Беларусь". Усяго ў Бялыніцкім раёне 15 ліпеня, згодна звестак сайта mintrud.gov.by, было 38 вольных вакансій у самых розных арганізацыях – у перадавым ПМК-241 і ПМК-82 "Водгас", у 7 аўтапарку і ў Бытпаслугах,у Бялыніцкім райста і лясгасе,



volgafoto.ru

іншых арганізацыях – і нідзе не прапаноўвалі заробак, вышэйшы за 1 800 000 рублёў.

Во гады, гэтыя супрацоўнікі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, чамусьці не даюць вакансій з сапраўдным сярэднім бялыніцкім заробкам у 4 241 500 рублёў.

Ды і наогул ва ўсёй Беларусі 60% вакансій прапануюць заробак да 3 млн рублёў, такія звесткі дае ўпраўленне палітыкі занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны краіны. Аднак статыскі ж кажуць, што сярэдні заробак у Беларусі дасягнуў 4 988 338 рублёў, а ім нельга не верыць, бо яны, як сцвярджаюць класікі, ведаюць усё.

Але і чаму тут здзіўляцца, хутка будзем чытаць рапарты пра небывалыя ўраджаі ў родным Бялыніцкім раёне, якія з года ў год растуць шалёнымі тэмпамі.

Праўда, пры гэтых небывалых ураджаях хлеб чамусьці не таннее, а толькі даражэе, ды і ўжо наступнай вясной у большасці гаспадарак раёна чамусьці ўласных канцэнтратаў няма. Ну а знаёмыя спецыялісты сельскай гаспадаркі ў прыватных гутарках з горыччу распавядаюць пра тое, як гэтыя рэкордныя ўраджаі робяцца на паперы пад ціскам мудрых кіраўнікоў з Бялыніцкага райвыканкама.

Проста, да ўсяго патрэбна адносіцца з гумарам, паважаныя чытачы. А тым больш да справаздач нашых слаўных бялыніцкіх і магілёўскіх чыноўнікаў.

***Іван Барысаў.***

## В Могилевской области усилили меры по предупреждению заболевания свиней африканской чумой

Специалисты принимают все меры, чтобы Могилевскую область обошла проблема заболевания свиней африканской чумой. Комплекс необходимых мероприятий отрабатывается еще с 2011 года. Об этом корреспондентам телерадиокомпании «Могилев» заявила главный государственный ветеринарный врач Могилевской области Елена Шибут.

По ее словам, «работа ведется напряженно, ежедневно, но планомерно». Учитывая, что заболевание имеет общий характер для диких и домашних свиней, ветеринары просят население быть внимательными к своим домашним животным и соблюдать элементарные правила безопасности.

# ДЭПУТАТ КРУГЛЯНСКАГА РАЙСАВЕТА СЕЎ НА ДВА ГАДЫ

***Былога начальніка Круглянскага раённага аддзела адукацыі Уладзіміра Аляхновіча прысудзілі да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыма. Ён выплаціць штраф у памеры дзесяць мільёнаў беларускіх рублей, таксама былога чыноўніка пазбавілі права на працягу пяці гадоў займаць кіруючыя і матэрыяльна адказныя пасады.***

Уладзімір Аляхновіч, акрамя займаемай пасады начальніка аддзела адукацыі Круглянскага райвыканкама, быў таксама і дэпутатам Круглянскага райсавета апошняга склікання

Падставай для вынясення прысуду паслужыла тое, што Уладзімір Аляхновіч незаконна выкарыстоўваў сваіх падначаленых на будаўніцтве ўласнага дома ў гарадскім пасёлку Круглае. Таксама начальнік аддзела адукацыі махляваў са службовымі паперамі, згодна якіх адбывалась спісанне грашовых сродкаў у аддзеле адукацыі.

Дом у Круглым Уладзімір Аляхновіч пачаў будаваць пасля таго, як быў прызначаны на пасаду начальніка раённага аддзела адукацыі. Да гэта ён працаваў дырэктарам ДУА “Філатаўскі ВПК дзіцячы сад - сярэдняя школа” ў аграгарадку Філатава. Быў абраны дэпутатам Круглянскага райсавета па Філатаўскай выбарчай акрузе № 26. Да гэтага часу на інтэрнэт-сайце Круглянскага райвыканкама размешчаны графік прыёма грамадзян дэпутатамі Круглянскага райсавета, дзе паведамляецца, што Уладзімір Аляхновіч праводзіць прыём грамадзян у будынку ДУА “Філатаўскі ВПК дзіцячы сад - сярэдняя школа” у кабінеце дырэктара кожную чацвёртую пятніцу месяца з 16-00 да 18-00.

У аграгарадку Філатава Уладзімір Аляхновіч меў таксама і ўласны дом.

Грамадская актывістка з Круглага Зінаіда Мілешчанка кажа, што мясцовыя ўлады ўсяляк замоўчвалі і працягваюць замоўчваць тэму недобрасумленных паводзін буйнога раённага чыноўніка.

“Гэты чалавек адказваў за адукацыю ў Круглянскім раёне, у пэўнай ступені – і за ідэалагічную працу, а нашы чыноўнікі робяць выгляд, што нічога страшнага не адбылося, - распавядае Зінаіда Мілешчанка. – Думаю, што каб інфармацыя аб махінацыях Аляхновіча не ўсплыла ў незалежнай прэсе, справу б паспрабавалі спусціць на тармазах. Ён заставаўся на сваёй пасадзе нават пасля таго, калі былі выяўлены парушэнні і людзі ў Круглым гэту тэму абмяркоўвалі. Мясцовыя ж улады тэму крымінальных паводзін галоўнага чыноўніка ад адукацыі ў Круглянскім раёне замоўчвалі і працягваюць замоўчваць і зараз, не хочуць адказваць ні на якія пытанні з боку грамадскасці”.

***Ірына Беганкіна.***

# ГЕНПРОКУРАТУРА БЕЛАРУСИ РЕКОМЕНДОВАЛА ПРЕКРАТИТЬ ВЫДАЧУ БЮДЖЕТНЫХ ССУД СЕЛЬХОЗПРЕДПРИЯТИЯМ

Генеральная прокуратура рекомендовала Министерству сельского хозяйства и продовольствия прекратить практику выдачи бюджетных ссуд сельхоз предприятиям, поскольку это влечет за собой создание условий для правонарушений в сфере распоряжения госимуществом.

Как сообщила пресс-служба Генеральной прокуратуры Беларуси рекомендация была дана во время оперативного совещания постоянно действующей рабочей группы по координации деятельности органов прокуратуры в области профилактики правонарушений.

Накануне прокуратура совместно с Комитетом государственного контроля вскрыли грубые нарушения в расходовании бюджетных средств.

# ШМАТПАКУТНЫ ДОМ




Дом для шматдзетных сем’яў у Бялынічах па-ранейшаму стаіць не заселены.

Кіраўніцтва Бялыніцкага раёна і ПМК-241 адчыталіся аб уводзе ў эксплуатацыю 12-кватэрнага дома для шматдзетных бялыніцкіх сем’яў, аднак ён увесь ліпень стаіць не заселены.

Па-ранейшаму незразумела, ці атрымаюць усё ж у гэтым доме кватэры менавіта шматдзетныя сем’і, альбо ён будзе заселены зусім іншымі людзьмі. Высокая камісія з мудрых дзяржаўных чыноўнікаў ужо амаль два месяцы ня можа выканаць распараджэнне Аляксандра Рыгоравіча і разабрацца ў такім “складаным” пытанні.

Цікава, усе іншыя пытанні яны таксама гэтак жа хутка вырашаюць?

Ну а ў доме, тым часам, ужо пабілі некаторыя вокны на першым паверсе, пагнулі ўсталяваныя каля яго дарожныя знакі.

Шматдзетныя бацькі, між тым, працягваюць тэлефанаваць у розныя інстанцыі, адкуль іх па-ранейшаму “адфутбольваюць”, і спадзяваца на тое, што ў хуткім часе яны ўсё ж атрымаюць ключы ад сваіх кватэраў…

***Багдан Іваноў.***

**Анекдот дня**

*— Мама, мама, я сейчас в магазине, что купить?*

*— Купи квартиру, сынок, и живи один!!!*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЦІ ЗМОЖА (ЦІ ХОЧА) ЛУКАШЭНКА ПЕРАМАГЧЫ КАРУПЦЫЮ?

За чэрвень 2013 года А.Лукашэнка неаднакратна на разнастайных нарадах ў даволі рэзкай форме выказаўся аб існуючай ва ўсіх сферах беларускай эканомікі карупцыі.

Гэта 4 чэрвеня на нарадзе па пытаннях жыллёвага будаўніцтва, 14 чэрвеня – пры наведванні следчага камітэту.

“Нерешенных вопросов нарушения законодательства более чем достаточно, отрасль очень коррумпирована,”- выказаўся ён на нарадзе па пытаннях будаўніцтва ў прысутнасці вышэйшага беларускага чынавенства.

“…Мы можем строить любые планы, но если мы не будем пресекать коррупцию, то эта ржавчина разъест все живое, все ростки, которые у нас будут,” - падкрэсліў Лукашэнка, выступаючы перад супрацоўнікамі следчага камітэту. “Поэтому я прежде всего уделяю внимание борьбе с коррупционными проявлениями. Они ведь связаны в основном с чиновничеством, и немалого уровня. Но если с головы рыба начинает загнивать, то отмирает вся система. Поэтому я все больше и больше об этом говорю,”- адзначыў ён надалей.

Па яго меркаваннях, асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на злачынствы пасягаючыя на эканамічную стабільнасць і бяспеку дзяржавы, падрываючыя самі асновы беларускай эканомікі, пры гэтым прынцып “непазбежнасці пакарання” павінен стаць асноўным у працы следчых і іх кіраўнікоў.

Слухаючы падобныя заявы, можа скласціся ўражанне, што ў нашай краіне і сапраўды пытанням барацьбы з карупцыяй на самым высокім узроўні ўдзяляецца належная ўвага, і любы карупцыянер непазбежна панясе законную кару.

Можа падацца, што нават звычайная вясковая мыш не праскочыць міма слаўных “стражаў парадку” з украдзеным на вясковым гумне зярняткам.

Але, калі хтосці ўважліва адсочвае рыторыку кіраўніцтва краіны на




дадзеную тэму, абавязкова заўважыць, што падобныя заявы гучаць з вуснаў беларускага лідэра ўжо дваццаць год. Заявы гучаць, праграмы на паперы прымаюцца, а карупцыя толькі памнажаецца і ўжо, як ніколі раней, пасягае на эканамічную стабільнасць і бяспеку беларускай дзяржавы.

Не будзем сёння казаць пра факты і прымаемыя меры па барацьбы з карупцыяй у нашай краіне ад часоў атрымання Беларуссю незалежнасці, пачнем размову аб часах слаўнай барацьбы пасля абрання ў Беларусі першага Прэзідэнта.

Яшчэ ў далёкім 1997 годзе ў краіне быў прыняты Закон Рэспублікі Беларусь “Аб мерах барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй”.

У 2001 годзе зацверджана Канцэпцыя нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, у якой барацьба з карупцыяй вызначана ў якасці аднаго з прыярытэтных накірункаў дзейнасці дзяржавы.

А ў 2002 нават прынята першая спецыялізаваная Дзяржаўная праграма па ўзмацненню барацьбы з карупцыяй на 2002-2006 гады.

У рамках рэалізацыі арганізацыйна-прававых мерапрыемстваў дадзенай праграмы былі яшчэ распрацаваны шэраг заканадаўчых актаў антыкарупцыйнай скіраванасці. Гэта Законы РБ “Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь”, “Аб дэклараванні фізічнымі асобамі прыбыткаў, маёмасці і крыніц грашовых сродкаў”, “Аб мерах па прадухіленню легалізацыі прыбыткаў, атрыманых незаконным шляхам, і фінансавання тэрарыстычнай дзейнасці”. Былі створаны шэраг Указаў Пэзідэнта РБ, датычныя да гэтай тэмы.

За 2000-2005 гады Беларусь ратыфікавала шэраг важнейшых міжнародных канвенцый скіраваных супраць карупцыі.

Зацвярджаючы 7 мая 2007 года сваім Указам за №220 чарговую спецыялізаваную Дзяржаўную праграму па барацьбе з карупцыяй на 2007-2010 гады, Аляксандр Рыгоравіч

*(Заканчэнне на стар. 5)*

# ЦІ ЗМОЖА (ЦІ ХОЧА) ЛУКАШЭНКА ПЕРАМАГЧЫ КАРУПЦЫЮ?

(Заканч. Пач. на стар. 4)

адзначаў, што прынятыя ў папярэднія гады меры дазволілі значна ўзмацніць антыкарупцыйную скіраванасць заканадаўства, вызначыць асноўныя накірункі і формы папярэджання карупцыі. Станоўча паспрыяла працы ў гэтым накірунку рэалізацыя папярэдняй Дзяржаўнай праграмы. Прыняццё новай абумоўлена неабходнасцю працягу эфектыўнай дзяржаўнай палітыкі ў сферы барацьбы з карупцыяй.

Асобае месца ў праграме па барацьбе з карупцыяй на 2007-2010 гады адводзілася арганізацыі і правядзенню мэтавых праверак у такіх сферах, як будаўніцтва аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці за кошт бюджэтных сродкаў, прадастаўленне жылых памяшканняў дзяржаўнага жыллёвага фонду, жыллёва-камунальная гаспадарка, прадастаўленне зямельных участкаў, пастаўка і рэалізацыя нафтапрадуктаў і іншых найбольш падвержаных карупцыі сферах.

На барацьбу з карупцыяй, згодна Дзяржаўнай праграмы і заканадаўчых актаў былі кінуты разнастайныя органы; унутраных спраў, дзяржаўнай бяспекі, пракуратура, як самастойна, так і ва ўзаемадзеянні паміж сабой, ва ўзаемадзеянні з іншымі дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі.

Згодна з Указам Прэзідэнта РБ ад 17 снежня 2007 года створаны рэспубліканская, абласныя, раённыя каардынацыйныя нарады па барацьбе са злачынствамі і карупцыяй, са старшынствам на чале гэтых нарад адпавядаючых пракурораў…

Прайшло ўжо два з паловай гады з дня завяршэння выканання праграмы на 2007-2010, якая прадугледжвала безумоўную паразу карупцыі перад нашымі слаўнымі прадстаўнікамі сілавых структураў, і толькі зараз схамянуліся і заўважылі, што карупцыя яшчэ жывая і нават мацнее ўсе гэтыя гады.

А дзе ж ёй не мацнець, бо толькі за 2010 год са сферы будаўніцтва аб'ектаў за кошт бюджэту карупцыя праглынула столькі фінансавых сродкаў,



памеры якіх па суме раўняюцца кошту будаўніцтва ў г.Мінску 60-ці шматкватэрных, шматпавярховых, тыпавых панэльных жылых дамоў. І гэта толькі невялікая доля ў адносінах да агульнай масы карупцыйнага складніка ў беларускай эканоміцы.

Узнікае пытанне…Чаму, пры, здаецца, рэгулярных прымаемых вышэйшымі беларускімі ўладамі мерах па барацьбе з карупцыяй, апошняя не толькі не знікае з "поля бітвы", а з кожным годам становіцца ўсё мацней?

А высновы напрошваюцца самі па сабе…

Дзякуючы склаўшайся ў Беларусі і існуючай амаль два дзесяткі год схеме размеркавання фінансавых сродкаў, чыноўнікі рознага рангу, раскрадаючы значную долю фінансаў, такім чынам атрымліваюць умоўную кампенсацыю за безагаворачную падтрымку рэжыму. І кожны з іх імкнецца атрымаць суму адпавядаючую яго непасрэднаму ўкладу. Хтосьці за забяспячэнне "безумоўнай" перамогі на мясцовых выбарах,хтосьці за парламенцкія, а хтосьці і за прэзідэнцкія. Каму-та перападае за іншы паспяховы ўклад у справу існаваня беларускага рэжыму.

Кожны з чыноўнікаў "прыпісаны" да сваёй "вагавой катэгорыі". Праўда калі-нікалі і тут адбываюцца збоі, бо нярэдка той або іншы чыноўнік спрабуе ўзняць "фінансавую штангу" неадпавядаючую ягонай "вагавой катэгорыі". Вось тады і запускаеца механізм барацьбы з карупцыяй.

Існуючая схема з'яўляецца як бы неафіцыйнай дамовай паміж беларускімі чыноўнікамі і вышэйшай уладай. У схеме існуюць і "прэміяльныя бонусы". За добрыя паводзіны і бязмерную адданасць – магчымасць адкупіцца грашовымі сродкамі пасля ўзбуджэння крымінальнай справы або вынясення судовага рашэння. Як кажуць, што знайшлі – аддаў, не знайшлі – у кішэню паклаў.

Пакуль будзе існаваць падобная практыка, карупцыя на Беларусі неператожна.

А можа і з гэтага будзе карысць? Дагніе галава ў рыбы, і сістэма сама адамрэ…

***Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ.***

## Дедушка украл велосипед

8 июля Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч.1 УК (Кража) по заявлению жителя д. Осмоловка 1953 г.р. о том, что 11 июня около 19-00 с улицы в указанной деревне похищен его велосипед. ОДО, ОУР установлено, что преступление совершил односельчанин 1947 г.р. Похищенное изъято. Мера пресечения не избиралась, сообщает сайт УВД Могилёвского облисполкома.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ВАЛЕРЫЙ ВУСІК АБСКАРДЖВАЕ ШТРАФЫ Ў ПАРАДКУ НАГЛЯДУ

Жыхар Бялыніцкага раёна Валерый Вусік 5 ліпеня падаў скаргу на імя старшыні Магілёўскага абласнога суда Ігара Прашко. У сваёй скарге Валерый Дзямідавіч просіць адмяніць уступіўшую ў законную сілу вынесеную напрыканцы сакавіка гэтага года пастанову суда Бялыніцкага раёна аб пакаранні яго штрафам у памеры 50 базавых велічынь.

Нагадаем, што 29 сакавіка 2013 года старшыня суда Бялыніцкага раёна Уладзімір Гуз пакараў Валерыя Вусік аштрафам у памеры 30 базавых велічынь за паклёп на адрас старшыні СВК "Лебедзянка" Пятра Бялова і штрафам у памеры 20 базавых велічынь за парушэнне артыкула 17 Закона аб СМІ пры распаўсюдзе газеты "Магілёўскі Выбар". Па сукупнасці канчатковы памер штрафу вызначаны ў памеры 50 базавых велічынь, што на сённяшні дзень складае 5 мільёнаў рублёў.

25 красавіка ў Магілёўскім абласным судзе адбыўся разгляд касацыйнай скаргі Валерыя Вусіка на рашэнне суда Бялыніцкага раёна. Суддзя Магілёўскага абласнога суда Павел Клімаў прыняў рашэнне пакінуць пастанову суда без зменаў, а касацыйную скаргу без задавальнення.

Суддзя Павел Клімаў не прыняў да ўвагі тое, што ў судзе Бялыніцкага раёна Вусіку было адмоўлена ў праве на абарону і прадастаўленні адваката, не выкліканыя сведкі ў суд з яго боку.

"У апошнія дні мне пастаянна тэлефануе судовы выканаўца з суда Бялыніцкага раёна, патрабуе, каб я пачаў выплочваць несправядліва накладзены на мяне штраф, даслалі і адпаведны ліст з суда, - распавядае Валерый Вусік. – Аднак я не лічу сябе вінаватым, прысуд суда Бялыніцкага раёна быў вынесены для таго, каб пакараць мяне за тое, што я казаў аб шматлікіх парушэннях у дзейнасці СВК "Лебедзянка" і




распаўсюджваў незележныя газеты, фактычна ж я ніякіх парушэнняў беларускага заканадаўства не рабіў.

З дапамогай праваабаронцы Барыса Бухеля я падрыхтаваў і 5 ліпеня падаў вялікую матываваную скаргу на імя старшыні Магілёўскага абласнога суда Ігара Прашко з просьбай адмяніць уступіўшую ў законную сілу пастанову суда Бялыніцкага раёна аб пакаранні мяне штрафам у памеры 50 базавых велічынь нібыта за паклёп і за распаўсюд газеты "Магілёўскі Выбар". Адкуль жа мне ўзяць такія грошы, я толькі невялікую пенсію атрымліваю, тым больш, што я не лічу сябе ў нечым вінаватым. Спадзяюся, што старшыня Магілёўскага абласнога суда разбярэцца ў маёй справе і адмніць пастанову суда Бялыніцкага раёна аб пакаранні мяне штрафам".

Таксама Валерый Вусік кажа, што 8 ліпеня ён падаў у суд Бялыніцкага раёна хадайніцтва з просьбай прыпыніць выкананне пастановы аб адміністрацыйным пакаранні ў адносінах да яго на перыяд разгляду яго скаргі старшынёй Магілёўскага абласнога суда.

Магілёўскі праваабаронца Барыс Бухель кажа, што, калі старшыня Магілёўскага абласнога суда аднясецца да справы Валерыя Вусіка не перадузята і ў адпаведнасці з законам, то ён адменіць пастанову суда Бялыніцкага раёна.

"Суд у Бялынічах прайшоў са шматлікімі парушэннямі, Валерыю Вусіку не быў прадастаўлены адвакат і не выслуханы сведкі з яго боку, - кажа Барыс Бухель. – Пры разглядзе касацыйнай скаргі ў абласным судзе суддзя Павел Клімаўне не прыняў да ўвагі пераканаўчыя выступы адваката і Валерыя Вусіка, тое, што ў судзе Бялыніцкага раёна Вусіку было адмоўлена ў праве на абарону і прадастаўленні адваката, не выкліканыя сведкі ў суд з яго боку, было парушана яго права на свабоду выказвання меркаванняў. Склалася ўражанне, што гэтая справа ў абласным судзе ад самага пачатку ўспрымалася як палітычная. Аднак мы вырашылі дабівацца адмены несправядлівага рашэння суда Бялыніцкага раёна да канца. На імя старшыні Магілёўскага абласнога суда падрыхтавана вялікая матываваная скарга аб'ёмам больш за дваццаць старонак, дзе выкладзены ўсе падрабязнасці гэтай адміністрацыйнай справы. Калі старшыня Магілёўскага абласнога суда аднясецца да разгляду адміністрацыйнай справы не перадузята, то пастанова суда Бялыніцкага раёна аб пакаранні Валерыя Вусіка штрафам у памеры 50 базавых велічынь безумоўна павінна быць адмененая".

***Сяргей Семяновіч.***

# МЯСНИКОВИЧ ДИСКРЕДИТИРУЕТ БЕЛАРУСЬ?

***В Беларуси около 445 тысяч человек трудоспособного населения нигде не работают. Эти люди не вносят никакого вклада в развитие экономики и при этом пользуются социальными благами. Об этом на днях заявил премьер-министр Беларуси Михаил Мясникович.***

Выход из этой ситуации он нашел весьма парадоксальный. «Ситуацию нужно исправлять. Один из способов — введение налога с неработающих», —заявил он.

Стоит отметить, что о борьбе с тунеядством разные официальные лица говорили неоднократно. «Как реагировать в рыночных условиях, я пока еще не знаю, но мы обязательно спросим каждого безработного, почему он не работает», — отмечал, в частности, Александр Лукашенко. Глава правительства, в свою очередь, заявлял, что «многие из этих так называемых неработающих» работают неофициально: при этом не платят подоходного налога и не делают отчислений в пенсионный фонд.

А почему же эти люди нигде не работают? Ведь, по данным Минтркуда, у нас полно вакансий! Например, как следует из отчета этого ведомства, на 12 июля наниматели заявили о наличии 72,7 тыс. свободных рабочих мест, из них 70,4% — для рабочих, 29,6% — для специалистов, служащих.

Как сказал в интервью «Товарищ.online» лидер профсоюза РЭП Геннадий Федынич, люди не работают потому, что им предлагают такие зарплаты, что на них просто невозможно прокормиться. «Заявление Мясниковича просто не подлежит критике. Как брать налог с того, у кого нет денег, кто не работает? Можно было бы брать налог с пособия по безработице, но оно же составляет восемь долларов в месяц. И вообще, в том, что человек не работает, виновато государство. Оно, во-первых, не обеспечило надлежащую занятость, а во-вторых, практически убита система переподготовки кадров. Для того, чтобы человек начал работать, нужно обеспечить его новой, востребованной профессией, и предложить достойную зарплату», — говорит Федынич.



*Михаил Мясникович*

Само же высказывание Мясниковича о «налоге с безработных» Федынич связывкает еще и с оттоком рабочей силы за границу. «Проедьте по Минску, посмотрите на многочисленные стройки – краны стоят и не работают. Это потому, что рабочие уехали в Россию, где им платят на порядок больше. На те вакансии, которые есть, с зарплатой три миллиона в месяц, просто невозможно прожить. Так обеспечьте людей нормальной зарплатой! Пусто она будет даже на 20% ниже российской – рабочие в Беларусь вернутся», — уверен Федынич.

«Это государство виновато в том, что не обеспечивает достойный уровень зарплаты в стране. Люди заинтересованы в работе, но она должна достойно оплачиваться. А если зарплаты едва хватает на еду, то о какой работе можно говорить?», — отметил Федынич.

Федынич прав. Исходя из того же отчета Минтруда, удельный вес вакансий с заработной платой до двух миллионов рублей составляет 29,2%, от двух до трех миллионов — 32,1%, до четырех миллионов — 22%. А между тем, четыре миллиона сейчас составляют около 450 долларов. Это значит, что 83,3% предложенных на рынке труда вакансий не дотягивают до «средней зарплаты по стране в 500 долларов».

В принципе, Советский Союз предлагал хороший рецепт выхода из ситуации «тунеядства и иждивенчества». Там была статья в Уголовном кодексе за тунеядство. И осужденных по этой статье отправляли на принудительные работы куда-нибудь в Сибирь.

Но ситуация в Беларуси отличается от ситуации в СССР тем, что у нас нет Сибири. И нет статьи за тунеядство. Как пояснил «Товарищ.online» руководитель правозащитной организации «Правовая помощь населению» (Украина), юрист Олег Волчек, направить кого-то на общественные работы у нас может только суд. «По Конституции у нас есть право выбирать, как жить: работать или не работать. Мы живем не в СССР, а в правовом государстве, как это записано в Конституции. Работа – это право, а не обязанность. И любое решение о вводе поправок в законодательство, связанное с принудительным трудом, будет противозаконно», — считает Волчек.

*(Окончание на стр. 8)*

## МАГІЛЁЎЦЫ ПАТРАБУЮЦЬ ВЫБАЧЭННЯЎ АД ЛУКАШЭНКІ ЗА "АДАРВАНЫЯ ГАЛОВЫ"

Адзінаццаць магілёўцаў выказалі незадаволенасць фактамі прапаганды гвалту, хамства і пагрозы забойства службовых асобаў па Беларускаму тэлебачанню прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Лісты з патрабаваннем прыняць меры ўздзеяння за выказванні да Аляксандра Лукашэнкі былі накіраваны ў Генеральную пракуратуру, Міністру інфармацыі, старшыні камісіі па правах чалавека і сродках масавай інфармацыі Палаты прадстаўнікоў, старшыні грамадскай Рады па маральнасці і адначасова старшыні саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаю Чаргінцу.

Падпісанты патрабуюць, каб кіраўнікі адказных за супрацьдзеянне прапаганды гвалту і амаральнасці не дапускалі ў СМІ паказ і публікацыі выказванняў кіраўніка дзяржавы, якія могуць негатыўна адбівацца на псіхіцы дзяцей і грамадзян, а таксама дыскрэдытаваць нашу краіну ў вачах сусветнай супольнасці.

Таксама магілёўцы хочуць, каб ў парламенце былі праведзены слуханні з нагоды недастойных паводзінаў Аляксандра Лукашэнкі і абавязаць прэзідэнта прынесці публічныя выбачэнні ў СМІ зняважаным міністрам, дзецям і гледачам беларускага тэлебачання.

Нагадаем, што 8 ліпеня па беларускаму тэлебачанню ў навінах з нагоды візіта Аляксандра Лукашэнкі ў Магілёўскую вобласць у вёску Александрыя, дзе праводзілася свята "Купалле", быў паказаны рэпартаж, у якім прэзідэнт абяцаў адарваць галовы міністрам калі вырабляемая сельгастэхніка будзе няякаснай.

## МЯСНИКОВИЧ ДИСКРЕДИТИРУЕТ БЕЛАРУСЬ?




*(Оконч. Начало на стр. 7)*

Он также отметил, что, скорее всего, заявления Мясниковича вызваны тем, что большое число рабочих рук выехало за границу. «Однако это проблема государства в том, что в Беларуси негде работать и нет достойных зарплат. И люди в этом не виноваты: они сами нашли себе работу, пусть и в другой стране. Это не значит, что они не работают вообще», — сказал Волчек.

Есть тут и еще один фактор, связанный со словами премьера.Такое впечатление, что он выступил главным паникером и дестабилизатором обстановки в стране. Вообще, по большому счету, премьера стоило бы привлечь к ответственности по статье Уголовного кодекса 369-1 «Дискредитация Республики Беларусь». Согласно этой статье, предоставление иностранному государству или иностранной или международной организации заведомо ложных сведений о политическом, экономическом, социальном, военном или международном положении Беларуси наказывается арестом на срок до 6 месяцев или лишением свободы на срок до двух лет.

Итак, по словам Мясниковича, 445 тысяч человек в Беларуси нигде не работают. Между тем, по официальным данным Министерства труда и социальной защиты, на 1 июля 2013 года на учете по безработице в службе занятости Беларуси состояли 22,6 тыс. человек. Кто же предоставляет заведомо ложные сведения о социальном положении Беларуси: премьер-министр или Министерство труда и социальной защиты?

***Сергей Веселкин, «Товарищ.online».***

### Белыничские металлисты

5 июля в 15-00 в г.п. Белыничи на ул. Строителей ОГАИ задержан трактор «МТЗ», под управлением неработающего местного жителя 1980 г.р., которой перевозил 1200 кг лома черного метала. Трактор с грузом доставлен в РОВД. Проводится проверка.



ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 16.07. 2013 г. у 15-00.